*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 457 • Верасень 1998 г.
Год выд. 48

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## РЭЗАЛЮЦЫЯ
### 23-й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

Мы, удзельнікі 23-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, падчас працы па сэкцыях («дыскусійныя сталы») абмеркавалі надзённыя праблемы палітычнага становішча ў Беларусі, ролю дыяспары ў дэмакратызацыі беларускага грамадзтва, а таксама пэрспэктывы захаваньня й разьвіцьця традыцыяў дыяспары.

Мы лічым, што выбары ў Беларусі павінны праводзіцца толькі згодна Канстытуцыі 1994 году пры ўмове:

— вызваленьня ўсіх палітычных вязьняў і вяртаньня палітычных эмігрантаў з заканадаўчымі гарантыямі іх бясьпекі;

— адмены ўсіх судовых справаў па перасьледу грамадзянаў Беларусі за апазыцыйную дзейнасьць;

— свабоды й даступнасьці ўсіх сродкаў масавай інфармацыі й прадастаўленьня гарантыяў роўных магчымасьцяў карыстаньня імі для ўсіх грамадзка-палітычных сілаў, якія стаяць на пазыцыі незалежнасьці Беларусі;

— аднаўленьня складу Цэнтральнай Выбарчай Камісіі, які быў да лістападу 1996 году;

— гарантыяў выкананьня законнасьці ўсіх дэмакратычных нормаў і працэдураў на аснове канстытуцыі 1994 году;

— гарантыяў павагі й забесьпячэньня ўсіх правоў чалавека згодна міжнародных нормаў;

— ажыцьцяўленьня шырокага грамадзкага й міжнароднага кантролю за выбарамі, гарантаванага Канстытуцыяй 1994 году й заканадаўствам на яе аснове.

Без выкананьня гэтых умоваў выбары немагчымыя, яны ня могуць лічыцца дэмакратычнымі, свабоднымі й легітымнымі.

Мы даручаем Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню прыняць удзел у больш істотных і агульнанацыянальных імпрэзах. У мэтах уплыву на пазыцыю ўраду Злучаных Штатаў зьезд лічыць неабходным аднавіць дзейнасьць беларускага лобі пры Кангрэсе ЗША й урадавых установах. Зьезд утварае групу, якой даручае выдаць наступны нумар *Belarusan Review* і знайсьці сталую асобу альбо некалькі асоб для рэгулярнага выданьня гэтага бюлетэню.

Удзельнікі 23-й Сустрэчы падтрымваюць выданьне кнігі Ул. Арлова й Г. Сагановіча «Старонкі беларускай гісторыі» й заклікаюць дыяспару скласьці дзеля гэтага ахвяраваньні.

Удзельнікі Сустрэчы прыйшлі да наступных высноваў:

— агульныя культурна-нацыянальныя імпрэзы й сьвяты ёсьць найлепшай формай гуртаваньня розных хваляў нашае дыяспары. Пры арганізацыі такіх імпрэзаў неабходна ўлічваць інтарэсы ўдзельнікаў і пазьбягаць фармалізацыі;

— стварэньне суботніх ці нядзельных школаў для дзяцей мусіць быць галоўным напрамкам працы арганізацыяў дыяспары сярод дзяцей і моладзі;

— усім беларускім арганізацыям у дыяспары неабходна імкнуцца да стварэньня й удасканаленьня сыстэмы сацыяльнае ды юрыдычнае дапамогі для навапрыбылых суродзічаў зь Беларусі;

— актуальным пытаньнем прызнана набыцьцё памяшканьня ў Мангэтане (Нью Ёрк), якое зьявіцца месцам рэпрэзэнтацыі беларускіх інтарэсаў, культурнае й сацыяльнае працы сярод суродзічаў, якія прыбываюць на сталае жыхарства ў Амэрыку.

Удзельнікі 23-й Сустрэчы пацьвярджаюць, што Царква зьяўляецца важным духоўным і культурным чыньнікам дыяспары, спрые захаваньню нацыянальнае спадчыны й культурнае тоеснасьці.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ
### 23-й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ «АБ УЗЬЯДНАНЬНІ Й УТРЫМАНЬНІ БАПЦ У КРАІ»

Удзельнікі 23-й Сустрэчы канстатуюць, што Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ёсьць духовай і культурна-нацыянальнай каштоўнасьцю дыяспары й усяго беларускага народу.

Мы, удзельнікі 23-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, заклікаем Уладыку Ізяслава й Уладыку Мікалая, духавенства й усіх вернікаў пераадолець нутраныя непаразуменьні ў БАПЦ, каб у еднасьці й згодзе прыступіць да ўзнаўленьня БАПЦ у Беларусі.

**Нью-Брансўік, 5—6 верасьня 1998 году.**

## ТРЫ «НЕ» БЕЛАРУСКІХ МОВАЗНАЎЦАЎ — ЛУКАШЫЗМУ

У жніўні ўся беларуская Беларусь сачыла за працэсам над газэтай «Наша Ніва» (мы пісалі пра гэта ў папярэднім нумары). Судовы разгляд быў адкладзены, суд запатрабаваў правядзеньня экспэртызы й сфармуляваў 3 пытаньні, адмоўны адказ на якія даваў-бы падставу для апраўданьня «Нашай Нівы».

Найбуйнейшыя спэцыялісты-мовазнаўцы Беларусі: член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук Аляксандар Булыка, прафэсары Браніслаў Плотнікаў, Павал Сьцяцко, Генадзь Цыхун, загадчык катэдры Белпэдуніверсытэту Павал Міхайлаў — на ўсе тры пытаньні адказалі «не». Такім чынам, з пункту гледжаньня як навуковага, так і юрыдычнага тарашкевіца НЕ ПАРУШАЕ «агульнапрынятых норм выкарыстоўваемай мовы», што й інкрымінавалася рэдакцыі газэты «Наша Ніва».

Суд яшчэ ня скончыўся, але якім-бы ні быў прысуд, «Наша Ніва», а разам з газэтай і ўсе нацыянальна арыентаваныя сілы — выйгралі. Цяпер незалежніцкія акадэмічныя колы сумесна з практыкамі мовы (прадстаўнікамі беларускага незалежнага друку) павінны праявіць волю і, склікаўшы прадстаўнічы сход, прыняць адзіныя нормы тарашкевіцы, якія стануць падмуркам далейшага, вольнага разьвіцьця нашае мовы.

**Дамінік Лось**

## ВЕСТКІ ЗЬ БЕЛАРУСІ

### КОНАДЗЕНЬ КАРТАК

Беларускія ўлады ізноў узгадалі пра савецкія «нормы водпуску ў адныя рукі». Гэта значыць, што зайшоўшы ў краму, пакупнік можа купіць хлеба, малака ды малочных вырабаў, цукру, мукі, алею, крупаў, макаронаў і каўбасы ня больш за вызначаную колькасьць. У залежнасьці ад віду харчу гэтая мяжа вагаецца паміж 1–2 кг.

Нормы ўведзеныя пакуль толькі на харчы й цыгарэты. А вось жэтонаў у менскай падземцы «ў адныя рукі» даюць не на кілаграмы, а на штукі — толькі 2.

Беларускае жыхарства яшчэ з савецкіх часоў памятае: калі ўводзяцца «нормы водпуску», то неўзабаве чакай і ўвядзеньня картак.

### У ПОШУКАХ СТРАЧАНАЙ БУЛЬБЫ

Мы ўжо пісалі пра вываз калгасамі й «прыватнікамі» харчоў зь Беларусі ў Расею. З надыходам восені гэты працэс набыў нячуваныя маштабы. Вязуць не таму, што няма куды дзець (ураджай сёлета слабы). Рэч у тым, што ў Расеі за той самы тавар можна атрымаць незраўнёна лепшую цану, чым у Беларусі.

Прэзыдэнт узяўся тэрмінова ратаваць становішча й выдаў загад: ствараць міліцэйскія пасты на асноўных дарогах, што вядуць зь Беларусі ў Расею. Цікава, што загад пачаў дзейнічаць да яго апублікаваньня. Посьпехі кампаніі экспрапрыяцыі ашаламляльныя: змагаючыся за рынкавы сацыялізм, улады ўжо канфіскавалі дзясяткі транспартовых сродкаў, з дапамогаю якіх ажыцьцяўлялася «несанкцыяваны» вываз харчоў, сотні аўтамабіляў і мотацыклетаў знаходзяцца «пад арыштам».

Што датычыць так званага «санкцыяванага» вывазу харчоў, то, па некаторых зьвестках, беларускія ўлады згодныя сплаціць гэтым таварам частку даўгоў за расейскі газ.

Гэтак, у верасьні ўжо дасягнутая дамоўленасьць паміж урадам Беларусі й расейскім Газпрамам: Беларусь паставіць у Расею харчоў на суму $10 мільёнаў.

### ВАЛЮТНЫЯ ЖАРСЬЦІ

Манэтарная палітыка й міліцэйская практыка ўладаў Беларусі прывялі да таго, што ў краіне стала немагчыма легальна купіць даляры. Нагадаем, што грошы ЗША выконваюць у Беларусі ролю самай надзейнай формы захаваньня капіталу (нават калі гэты капітал складаецца з 20-даляравай паперкі).

Банкі практычна не прадаюць даляраў. Яно й ня дзіўна: дзяржава абавязвае прадаваць «зялёныя» па курсе 65 000 рублёў за $1, а на чорным рынку даляр каштуе цяпер 100 000–110 000 рублёў. (Удакладнім, што гутарка ідзе пра наяўныя грошы, а сэнсацыйныя паведамленьні пра рэзкае падзеньне беларускага рубля да ўзроўню 350 000 за $1 датычыла безнаяўных грошай).

Аднак калі мяняць даляры ў банку вельмі неэканамічна, то ў «валютчыкаў» (мяняльнікаў чорнага рынку) — небясьпечна, бо гэта пагражае ня толькі канфіскацыяй усіх наяўных грошай, але й вялізнымі штрафамі й нават «прыцягненьнем да крымінальнай адказнасьці».

### НОВЫ РЭФЭРЭНДУМ?

У канцы верасьня ў Менску адбыўся I кангрэс народна-патрыятычных сілаў.

*(Працяг на с. 5)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

# ЯК Я ЕХАЛА ДА БРАТА

**З. Пазьняку й С. Навумчыку надалей пагражае небясьпека**

Пасьля таго, як мой брат Сяргей Навумчык разам зь Зянонам Пазьняком атрымаў палітычны прытулак, не праходзіць месяца, каб афіцыйная прапаганда (а то й сам Лукашэнка) ня прыгадвалі Пазьняка й Навумчыка, абвінавачваючы іх ва ўсіх сьмяротных грахах — і ў «міжнароднай ізаляцыі краіны», і ў «дэстабілізацыі ўнутрыпалітычнага становішча». Прадметам пільнай увагі стала й наша сям'я. І калі абразьлівыя публікацыі ў газэтах (напрыклад, фэльетон пра «сям'ю здраднікаў» ва ўрадавай газэце «Рэспубліка») спрабуеш не заўважыць, то да няспыннай цікавасьці з боку спэцслужбаў прызвычаіцца цяжка. Прычым КГБ нават і не хавае, што наш тэлефон праслухоўваецца. Хаця ім і бяз гэтага вядома, што мы знаходзімся ў апазыцыі да антыдэмакратычнага лукашэнкаўскага рэжыму.

У Віцебскі Ўнівэрсытэт, дзе працуе муж, нават прыходзіў прадстаўнік КГБ і выказваў незадаволенасьць з мужавых «апазыцыйных поглядаў». Некаторыя журналісты пішуць, што Пазьняк даўно не ўяўляе для рэжыму небясьпекі й што ён можа бесьперашкодна вярнуцца на радзіму. Аднак я пераканалася, што гэта ня так.

У канцы ліпеня я вылятала ў Нью Ёрк з аэрапорту «Менск-2». На мытным кантролі мне ўчынілі сапраўдны допыт — ці не вязу я «апазыцыйную літаратуру» й «падпольныя выданьні». Відавочна, кіраўнікі мытні не ўяўляюць, што з дапамогаю «Інтэрнэту» адным ударам па клявішы можна пераправіць мэгабайты «падрыўной» інфармацыі ў любы пункт сьвету. Калі-ж мытня была пройдзеная, я падышла да памежнага кантролю. Памежнік, прагледзеўшы мой пашпарт, адразу спыніў мяне.

— Мне трэба параіцца з начальствам, — сказаў ён і правёў мяне ў асобны пакой.

Час ішоў, людзі ўжо прайшлі ў самалёт. Нарэшце да мяне выйшаў памежнік. Я пацікавілася: у чым прычына затрымкі? Мне не адказалі. Тады я запыталася: можа, справа ў маім прозьвішчы? Памежнік даў зразумець, што менавіта так.

Як вядома, у траўні 1996 году газэта «Свабода» паведаміла, што камандуючы памежнымі войскамі Беларусі выдаў загад на ўсе пункты «грамадзяна РБ Пазьняка З. С. і Навумчыка С. І. пры ўезьдзе-выезьдзе затрымаць», і іх прозьвішчы й ініцыялы занесеныя ў камп'ютары. А я таксама «Навумчык С. І.», бо засталася на дзявочым прозьвішчы.

Вось так нечакана пацьвердзілася, што лідэраў Народнага Фронту чакае зусім ня цёплае спатканьне й што Пазьняк па-ранейшаму застаецца для Лукашэнкі «ворагам нумар адзін».

**Сьвятлана Навумчык**

## БЕЛАРУСКІЯ АТЛЕТЫ Ў БУДАПЭШЦЕ

18—23 жніўня ў сталіцы Вугоршчыны праходзілі эўрапейскія спаборніцтвы па атлетыцы. Брала ўдзел і Беларусь. У беларускай камандзе былі вядомыя спартоўцы, таму можна было спадзявацца ад іх добрых вынікаў. На жаль, так ня сталася: Беларусь заваявала толькі два бронзавыя мэдалі й аказалася на 22-м месцы. Абедзьве ўзнагароды здабылі жанчыны: Я. Карольчык у кіданьні кулі й Н. Сазановіч у сямібор'і.

Варта ўспомніць, што былыя беларускія спартсмэны Э. Хэмэлайнэн (цяпер Фінляндыя) і Т. Шыкаленка (цяпер Расея) здабылі срэбныя мэдалі.

Ў ангельскіх газэтах і тэлевізійных перадачах прозьвішчы беларускіх спартоўцаў трансьлітараваліся паводле... расейскага правапісу. Ці не пара, каб ангельская транскрыпцыя была пісаная зь беларускага правапісу? А чаму ня ўжываць беларускую лацінку, каб пазбыцца такіх дзіўных транскрыпцыяў, як, напрыклад, Khokhulyova?

**М. Швэдзюк**

### ВЫНІКІ ЛЁГКААТЛЕТЫЧНАГА ЧЭМПІЯНАТУ ЭЎРОПЫ

| | Зл. | Ср. | Бр. | Разам |
|---|---|---|---|---|
| 1. Брытанія | 9 | 4 | 3 | 16 |
| 2. Нямеччына | 8 | 7 | 8 | 23 |
| 3. Расея | 6 | 9 | 7 | 22 |
| 4. Польшча | 3 | 4 | 1 | 8 |
| 5 Румынія | 3 | 2 | 2 | 7 |
| 6. Украіна | 3 | 2 | 1 | 6 |
| 7. Італія | 2 | 4 | 3 | 9 |
| 8. Партугалія | 2 | 3 | 1 | 6 |
| 9. Гішпанія | 2 | 1 | 4 | 7 |
| 10. Францыя | 2 | 1 | 1 | 4 |
| 11. Ірляндыя | 2 | 0 | 1 | 3 |
| 11. Вугоршчына | 1 | 1 | 0 | 2 |
| 13. Баўгарыя | 1 | 0 | 3 | 4 |
| 14. Грэцыя | 1 | 0 | 2 | 3 |
| 15. Эстонія | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 16. Чэхія | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 17. Фінляндыя | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 18. Швайцарыя | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 19. Латвія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 20. Славенія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 21. Швэцыя | 0 | 1 | 0 | 1 |
| **22. Беларусь** | **0** | **0** | **2** | **2** |
| 23. Аўстрыя | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 24. Галяндыя | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 25. Летува | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 26. Нарвэгія | 0 | 0 | 1 | 1 |

# ХРОНІКА ХРОНІКА

## КЛІЎЛЕНД

26 ліпеня, першы раз у гісторыі беларускае калёніі ў Кліўлендзе, пачалі выходзіць у эфір беларускія радыёперадачы. Распачаць гэтую справу дапамагла спн. Катэрына Нэмыра, якая вядзе ўкраінскую радыёперадачу «Світлиця». Цяпер беларускія перадачы выходзяць два разы на месяц, вядзе іх сьвятар парафіі Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Кліўлендзе а. Зьміцер Беленькі.

Першая перадача была прысьвечаная 50-годзьдзю аднаўленьня дзейнасьці БАПЦ за межамі бацькаўшчыны. Маем надзею, што гэтыя перадачы будуць трываць праз доўгія гады.

Адрас Беларускага Радыё ў Кліўлендзе: Belarusan Radio, P.O. Box 360948, Strongsville, Ohio 44136. **А.С.**



*Айцец Зьміцер Беленькі ў студыі радыёстанцыі.*

## ГАЙЛЕНД ПАРК, Н. ДЖ.

20 верасьня ў парафіі Жыровіцкае Божае Маці ладзіўся пікнік. Пульхныя бліны ды пікантныя каўбаскі, лятарэя з разнастайнымі прызамі, сяброўскія сустрэчы — усё гэта спрыяла стварэньню цёплай сямейнай атмасфэры. Арганізатарам пікніка выступіла парафіяльная рада на чале з сп. Віктарам Дубягам.

## САЎТ РЫВЭР, Н. ДЖ.

27 верасьня прайшоў пікнік у парафіі сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

## РЫЧМАНД ГІЛ, Н. Ё.

13 верасьня ў залі царквы сьв. Кірылы Тураўскага адбыўся выступ актрысы Галіны Дзягілевай, мастацкага кіраўніка Беларускага Паэтычнага Тэатру Аднаго Актора «Зьніч» пры Беларускай Дзяржаўнай Фільгармоніі.

Былі паказаныя фрагмэнт са спэктаклю «Выгнаньне ў рай» (пра жыцьцё княгіні Рагнеды; паводле п'есы Н. Рапы), «Белы сон» (паводле кнігі Ларысы Геніюш «Споведзь»), «Віленскія мроі» (паводле ўспамінаў Юліі Вітан-Дубейкаўскай і вершаў Надзі Артымовіч), а таксама ўрыўкі з твораў Янкі Купалы.

# НАВІНКІ ІНТЭРНЭТУ

Можна з упэўненасьцю сказаць, што беларускі Інтэрнэт мінуў стадыю малюнкавага этнаграфізму й набыў новую якасьць. Пра гэта сьведчаць новыя старонкі.

Як зусім новую зьяву трэба адзначыць беларускамоўны чат — месца ў «павуцiньні», дзе ёсьць магчымасьць весьці гутарку «на жывую», прынамся з тымі, хто ў дадзены момант зайшоў на чат. Ніякіх дадатковых праграмаў для гэтага ня трэба (**http://mercury.beseen.com/chat/rooms/r/5754**).

Зьявілася старонка Архіву Найнаўшае Гісторыі — інстытуцыі, добра вядомай сваімі кніжнымі праектамі ды публікацыямі ў газэце «Наша Ніва» (**http://www.lingvo.minsk.by/nn/**).

Старонка «Маладога Фронту» (**http://www.geocities.com/CapitolHill/Senate/1436/index.htm**) утрымвае разьдзелы «Мэты й прынцыпы», «Кірункі дзейнасьці» й статут арганізацыі.

Выклікае цікавасьць новая старонка Віталя Сіліцкага *Free Belarus now!* (**http://www.geocities.com/CapitolHill/Senate/8539**): палітычная інфармацыя, агляды падзеяў.

На **http://www.cacedu.unibel.by/partner/scouts/scout.htm** разьмясьцілася старонка беларускіх скаўтаў, на якой распавядаецца пра гісторыю беларускага скаўтынгу на бацькаўшчыне й на чужыне, падаецца Статут Аб'еднаньня Беларускіх Скаўтаў, а таксама даецца магчымасьць пазнаёміцца з кнігаю «Асновы скаўцкае мэтоды», выдрукаванай у 1947 годзе.

Усё часьцей сярод беларускіх «астравоў» у Інтэрсецы можна напаткаць вузкаспэцыялізаваныя «мясьцінкі». Такою зьяўляецца ілюстраваная старонка, прысьвечаная гісторыі беларускай філятэліі (**http://www. geocities.com/Heartland/Estates/3337/bel01.html**). Альтэрнатыўны беларуска-ангельскі слоўнік рэпрэзэнтуе сучасную табуяваную (нецэнзурную) лексыку (**http://www.notam.uio.no/~hcholm/altlang/ht/Bielorussian.htm**).

Сваю старонку займеў Амэрыканскі Сусьветны Патрыярхат — **http://members.aol.com/amworldpat/ (e-mail: AmWorldPat@aol.com)**. Яна зьмяшчае гісторыю Патрыярхату (у ангельскай мове), а таксама публікацыі — тры выпускі «Голасу Царквы Беларускай» (адзін зь іх — у ангельскай мове), тэкст і ноты гімну «Магутны Божа». Шкода толькі, што фотаздымкі ды тэксты адсканаваныя ня вельмі добра — яны малачытэльныя. Але трэба адзначыць, што гэта першая старонка адной зь беларускіх цэркваў — калі, вядома, ня лічыць старонкі Беларускага Экзархату Расейскай Праваслаўнай Царквы (**http://www.belarus.net**).

А «Беларуская палічка» (**http://www.wu-wien.acat/groups/belarus**) запрашае да чытаньня твораў Кастуся Тарасава — «Тры жыцьці княгіні Рагнеды» й «Пагоня на Грунвальд, манаграфію Галіны Дзербінай «Права й сям'я ў Беларусі ў эпоху Рэнэсансу», І. Цікоцкага «Помнікі архітэктуры Слуцку», кніг з сэрыі «Нашы славутыя землякі» — пра Тадэвуша Касьцюшку й Канстанціна Астрожскага.

З прыватных старонак варта адзначыць старонку Сяржука Герасімава й тэатру «Вольная сцэна» (**http://www.freeyellow.com/members4/2serge/page1.htm**).

## ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА ХРОНІКА

### ПЭРТ, АЎСТРАЛІЯ

56-я ўгодкі трагічнай сьмерці выдатнага песьняра й прарока беларускага нацыянальнага адраджэньня Янкі Купалы беларусы Пэрту й ваколіц адзначылі 27 чэрвеня ў Беларускім Народным Доме (БНД). На праграму сьвяткаваньня склаліся два даклады — па-беларуску (Міхась Раецкі-старэйшы) і па-ангельску (Міхась Раецкі-малодшы).

Гэтым угодкам была прысьвечаная й паўгадзінная радыёпраграма ў Пэрце.

*

1 жніўня ў залі БНД адбылася 47-я гадавая зборка сяброў Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняў Аўстраліі (Б.А. у З.А.). Па прывітаньні прыбыўшых і адкрыцьці зборкі старшынёй уступаючай управы М. Раецкім-малодшым, ходам зборкі кіраваў А. Мароз. Справаздачу зь дзейнасьці Б.А. у З.А. даў Міхась Раецкі-малодшы, а грашовага стану — скарбнік А. Мароз. Затым адбыліся выбары новай управы. На старшыню аднагалосна быў абраны Міхась Раецкі-малодшы. Намесьнікам старшыні стаў Міхась Ёлаб, сакратаром — Алекс Мароз, скарбнікам — Марылька Ёлаб, вонкавыя сувязі — Міхась Раецкі-старэйшы, рассылка прэсы — Марыя Мароз, рахункавод — Лінда Ёлаб. Па заканчэньні афіцыйнай працы адбыўся пачастунак, за падрыхтаваньне якога належыцца падзяка спням З. і М. Ёлаб ды Марыі Мароз.

*

12 жніўня з радыёстанцыі 6 ЭБА пайшла ў эфір 700-я беларуская радыёперадача. У гэтых перадачах, апрача мясцовых вестак, падаецца інфармацыя з жыцьця беларусаў у замежжы й на бацькаўшчыне. Гісторыя Беларусі, пачынаючы з часоў Полацкага Княства й аж да Другое сусьветнае вайны падавалася па-ангельску на працягу паўтара году. Ня была забытая літаратура, выдатныя падзеі й постаці.

Беларускія перадачы маюць слухачоў ня толькі сярод суродзічаў, яны выклікаюць цікавасьць і сярод іншых славянамоўных групаў. Да гэтага трэба дадаць, што дыктарам тут ня плацяць. Працуем мы добраахвотна, каб гэткім спосабам сплаціць свой доўг Маці-Беларусі. За радыёчас трэба плаціць радыёкампаніі 15 даляраў за паўгадзіны; гэтыя выдаткі субсыдуюцца са скарбу Б.А. у З.А.

**Р.М.**

## БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ АДПАЧЫВАЮЦЬ У КАНАДЗЕ

Сёлета Канада ўжо восьмы раз прымае дзяцей зь Беларусі. Стараньнямі **Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі** 630 дзяцей праводзяць ад шасьці да дванаццаці тыдняў у канадыйскіх сем'ях. Прыяжджаюць сюды стомленыя, бледныя, а пару тыдняў пазьней цяжка пазнаць: дзеці сьвежыя, поўныя сілаў.

У ліпені я мела прыемнасьць пабыць з маленькімі гасьцямі зь Беларусі аж тры разы. Езьдзіла зь дзеткамі турыстычным цягнікам у мястэчка Ўэйкфілд у асабліва прыгожай частцы Квэбэку. Шмат гутарыла зь імі. З прыемнасьцяй заўважыла, што апрача дзьвёх дзяўчатак з Чавусаў, якія называлі сябе «рускімі», усе іншыя гаварылі пабеларуску, бо мелі бабульку, якая навучыла іх роднай мове.

Наступная нагода спаткацца зь вялікай групай дзяцей надарылася на пікніку на рэсорце адной з нашых канадыйскіх сям'яў, якая сама прымае дваіх дзяўчатак і займаецца арганізацыяй аднэй з групаў непадалёк Атавы. Там прысутнічала больш за сотню асобаў. Былі й танцы, і клоўны, і цудоўная беларуская вячэра, прыгатаваная пад кіраўніцтвам спн. Зіны Лібінай, атаўскай беларускі паходжаньнем з Рэчыцы.

Трэцяй нагодай пацешыцца нашымі малымі суродзічамі быў канцэрт у гонар беларускіх дзетак, у якім бралі ўдзел і яны самыя. Зарганізавалі яго супольна Асацыяцыя Сяброў Славянскіх Культураў і аддзел мастацтва і культуры гораду Гуль. Былі прысутныя на сцэне таксама палякі, сэрбы, расейцы, украінцы й, вядома, тутэйшыя беларусы: Уладзя Шаметка (скрыпка), Сьвятлана Рачыцкая (фортэпіяніна) і перад мікрафонам Пятро Шварцман.

Дзьве беларусачкі, Ніка Дармаян і Ірына Юдзіна, прыгожа прасьпявалі «Мой родны кут» на словы Якуба Коласа, а група дзетак вывучыла песьню па-ангельску з аднэй беларускай страфой на тэму дня. Атрымалі яны за гэта ня толькі воплескі публікі, але й па кветачцы ад арганізатараў і па невялікім падарунку ад гораду Гуль. Усе прамовы перад канцэртам перакладаліся на беларускую мову сп. Шыдлоўскім зь нядаўна адкрытае амбасады Беларусі ў Канадзе, а сам пасол, сп. М. Хвастоў, запрошаны арганізатарамі на канцэрт, падзякаваў Канадзе за такую значную дапамогу беларускай дзятве.

Гэта былі толькі тры падзеі зь сёлетняга адпачынку беларускіх дзетак у Канадзе, адкуль яны ня толькі вяртаюцца дахаты ў лепшым стане, але й вязуць з сабою масу ўспамінаў, незабыўных уражаньняў. Адначасна кожная такая нагода прыцягвае дзясяткі журналістаў, якія пазьней у сродках інфармацыі расказваюць пра Беларусь і яе боль. У канцы ліпеня ў тарантаўскі Ўандэрленд і ў заалягічны парк зьехаліся сем'і, якія прымаюць нашых дзетак з усяе правінцыі Антарыё. Шмат хто наведаў пры гэтай нагодзе й Ніягару.

Кожнага лета больш з 10 групаў дзяцей зь Беларусі прыяжджаюць у Канаду, дзе на іх чакаюць канадыйскія сем'і па ўсёй краіне ад акіяну да акіяну, ад Вікторыі ў Брытанскай Калюмбіі да Сэнт Джонса на Ньюфаўндлендзе. Арганізацыя ў дзесяць разоў павялічылася ад першага прыезду ў Канаду 79-ці беларускіх дзяцей у 1991 годзе.

Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, у якім толькі адна асоба займае платную пасаду, налічвае тысячы добраахвотных працаўнікоў; гэта пераважна сем'і, якія прымаюць дзяцей. Яны цэлы год рыхтуюцца да прыезду беларускіх гасьцей. Згуртаваныя ў групы пад кіраўніцтвам «лідэраў», яны арганізуюць розныя імпрэзы, каб сабраць дастаткова грошай на прыезд дзяцей і аплату ўсіх зьвязаных з гэтым выдаткаў. Падчас побыту дзіцяці ў сям'і ўважаюць яго за сваё ўласнае, і тут ужо грошай ніхто ня лічыць.

Сувязь працягваецца й пасьля выезду гасьцей назад у Беларусь. Фонд стараецца памагчы шпіталям у мясцовасьцях, адкуль паходзяць дзеці, а таксама двом дзіцячым дамом, адкуль бярэ дзяцей у рамках сваёй праграмы дапамогі сіротам, а канадыйскія сем'і памагаюць сем'ям беларускім, высылаючы пачкі, перапісваюцца. Часта завязваецца сапраўднае сяброўства.

Некалькі канадыйскіх сем'яў нават привозілі ў Канаду бацькоў «свайго» дзіцяці, каб ім таксама даць магчымасьць адпачыць, а сотні езьдзілі ў Беларусь. Усе вяртаюцца захопленыя гасьціннасьцю й жыцьцяздольнасьцю беларусаў, якім удаецца выжываць у такіх цяжкіх умовах. Для гэтых людзей Беларусь назаўсёды застанецца блізкай, дарагой ім краінай.

**Івонка Сурвілла**



*Канцэрт беларускіх дзяцей у залі гораду Гуль.*



*Старшыня Фонду спн. Лоўры Лоўз зь беларускім хлопчыкам Пецем.*

### МЭТЫ КАНАДЫЙСКАГА ФОНДУ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі — зарэгістраваная дабрачынная арганізацыя, мэта якой — дапамагаць беларускім ахвярам Чарнобыльскай ядзернай катастрофы:

— даючы дзецям, якія жывуць у забруджаных зонах Беларусі, магчымасьць правесьці некалькі тыдняў летняга адпачынку ў канадыйскіх сем'ях, з надзеяй, што гэта палепшыць іх здароўе;

— спрыяючы збліжэньню між беларускімі й канадыйскімі сем'ямі, дапамагаючы падтрымліваць сталыя кантакты канадыйскіх сем'яў зь сем'ямі беларускіх дзяцей, якіх яны прымаюць у Канадзе;

— дапамагаючы шпіталям Беларусі, якія разьлічваюць на дапамогу замежжа, забясьпечыць свае патрэбы ў леках і мэдыцынскім абсталяваньні;

— даючы магчымасьць беларускім лекарам і навукоўцам у сфэры мэдыцыны працаваць са спэцыялістамі Канады ў галінах ахове здароўя, зьвязаных з наступствамі Чарнобыльскай катастрофы;

— ствараючы іншыя праграмы, якія дапамогуць беларускаму народу палепшыць сваё здароўе.

Адрас Фонду: **Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Belarus, 190 Bronson Ave., Ottawa, K1R 6H4**

На Інтэрнэце: **http://www.cybertap.com/belarus**

# 23-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

**5 верасьня**

## БЕЛАРУСКІ МОГІЛЬНІК У ІСТ БРАНСЎІКУ

Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якія праводзяцца ў Нью Джэрзы што шэсьць гадоў, традыцыйна пачынаюцца на гэтым сьвятым для нас месцы. Першагерарх БАПЦ мітрапаліт Таронцкі Мікалай у суслужэньні а. Васіля Андрэюка, сьвятара парафіі Жыровіцкае Божае Маці аправіў паніхіду па палеглых за незалежнасьць Беларусі.

Былі ўшанаваныя магіла мітрапаліта Васіля, Крыж Беларускім Змагаром і магіла прэзыдэнта Рады БНР В. Жук-Грышкевіча. Прагучалі прамовы старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА А. Шукелойця, старшыні БНФ З. Пазьняка, заступніка старшыні Рады БНР С. Навумчыка, старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Р. Жук-Грышкевіч.

Далей урачыстасьці працягваліся ў Нью Брансўіку.

## ГАТЭЛЬ «ГАЯТ РЫДЖЭНСЫ» Ў НЬЮ БРАНСЎІКУ

На два дні гатэль стаў беларускамоўным, усюды можна было спаткаць нашых суродзічаў, над уваходам расьпасьцёрся бел-чырвона-белы сьцяг.

Пасьля сытнага падабеду (brunch) пачаўся сымпозыюм. (Аб прабегу сымпозыюму чытайце ў наступным нумары газэты.)

Пасьля перапынку адбыўся баль, на якім граў гурт Зьмітра Бычкоўскага.

**6 верасьня**

## БАНКЕТ

Імпрэзу вёў старшыня арганізацыі-гаспадара — Нью Дзэрзыйскага Аддзелу БАЗА — Юрка Азарка.

Першаю прывітала ўдзельнікаў Сустрэчы ад імя ўладаў штату Нью Джэрзы адказная за стасункі з этнічнымі групамі Мэры Кэйджоў.

Наступным прамоўцам быў прадстаўнік кангрэсмэна Фрэнка Палоўна, дэпутат сэнату штату Нью Джэрзы Джон Вісьнеўскі, які ўжо не ўпяршыню ўдзельнічае ў беларускіх імпрэзах. Сп. Вішнеўскі праявіў глыбокае веданьне й разуменьне сытуацыі, выказаў спагаду й салідарнасьць у нашай барацьбе ды запатрабаваў «прыпыніць працэс інкарпарацыі Беларусі ў Расею».

Была зачытаная праклямацыя ад губэрнатара штату Нью Джэрзы.

Былы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэйвід Шўорц дэтальна абмаляваў геапалітычнае становішча Беларусі ў дачыненьні да суседніх краінаў. Асабліва падрабязна ён спыніўся на зьнешнепалітычным аспэкце. Сп. Шўорц выказаў надзею на новую генэрацыю беларусаў ды выступіў з прапановай — стварыць прававы ўнівэрсытэт.

Намесьнік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык зачытаў прывітаньні, скіраваныя на адрас Сустрэчы.

З прывітальным словам выступіў старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелойць. Ад імя Сустрэчы ён прывітаў і пажадаў здароўя заслужаным беларускім дзейнікам Я. Арцюху, М. Ганьку, Б. Рагулю, якія ня здолелі прыбыць на Сустрэчу.



*Удзельнікі Сустрэчы пасьля літургіі, адслужанай у царкве БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці мітрапалітам Мікалаем у суслужэньні сьвятароў а. Васіля Андрэюка (Гайленд Парк), а. Зьмітра Беленькага (Кліўленд), а. Аляксандра Верамейчыка (Менск). Гайленд Парк, 6 верасьня.*

Прывітаньне Сустрэчы старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы выклікала выключнае зацікаленьне й падтрымку.

У сваёй прамове старшыня БНФ Зянон Пазьняк гаварыў пра катастрафічнае падзеньне колькасьці насельніцтва Беларусі, гэты працэс прамоўца назваў выміраньнем нацыі. За XX ст. ва ўсіх суседніх зь Беларусьсю краінах насельніцтва ўзрасло, а ў сёньняшняй Беларусі жыве людзей менш, чым у Беларускай Народнай Рэспубліцы на момант яе абвешчаньня. Кожны год насельніцтва Беларусі зьмяншаецца на 80 тысячаў — гэта жыхарства аднаго адміністратыўнага раёну. У Беларусі 119 раёнаў. Калі дынаміка страты насельніцтва застанецца тою-ж, то праз 119 гадоў беларусаў ня стане.

Далей сп. Пазьняк сказаў: «Найбольшая наша гістарычная страта — гэта гістарычная й духоўная сталіца Беларусі — горад Вільня. Мы павінны адрадзіць гістарычныя сталіцы Беларусі — Полацак і Навагрудак. Гэта будзе кампэнсацыя за страту Вільні. [...] Расея стаіць на парозе імпэрскага таталітарызму. Гэтаму мы можам супрацьставіць станоўчую й канцэптуальную палітыку: пошукі альтэрнатывы, выбар шляхоў разьвіцьця, а ня выбар паміж шляхам і пратэстам».

У сваім слове сп. С. Навумчык адзначыў: «Калі-б эміграцыя не захавала герб і сьцяг, то гэтыя сьвятыні так і не вярнуліся-б у сьведамасьць беларусаў». Ён выказаў падзяку эміграцыі.

Прамоўцамі была згаданая адданая праца др. Р. Жук-Грышкевіч і створаны ёю Фонд Памяці Н. Арсеньневай, зь якога грошы ідуць не арганізацыям, а непасрэдна асобам ці сем'ям асобаў, якія сядзелі, а некаторыя й цяпер сядзяць у лукашэнкаўскіх турмах.

Дырэктар Беларускае Службы Радыё «Свабода» Вячка Станкевіч перадаў прывітаньне Сустрэчы ад супрацоўнікаў радыё.

З грунтоўным дакладам па-ангельску пра месца Беларускае Народнае Рэспублікі ў нашай нацыянальнай гісторыі выступіў др. Янка Запруднік.

Сп. А. Белы ад імя камітэту ўшанаваньня клюбу «Спадчына» (Менск) перадаў кубкі з выявою герба «Пагоня» А. Шукелойцю, І. Сурвільле, Ул. Набагезу, К. Вініцкай, М. Грэбеню, М. Прускаму, М. Смаршчку, К. Акулу, М. Латушкіну (апошнія трое на Сустрэчы не прысутнічалі).

## КАНЦЭРТ

Ансамбль Валянціны Пархоменкі рэпрэзэнтаваў самую вялікую праграму, аснову якой склалі народныя песьні. Надзвычайнае ўражаньне на слухачоў зрабіла выкананае ў аўтэнтычнай, народнай манеры купальскае гуканьне «У цёмным лесе гаманіла».

Сапраўдным адкрыцьцём стала дачка Валянціны Пархоменкі й Алеся Казака — Вольга Казак, якая прасьпява-




*Прамаўляе Д. Шўорц*

## СУСТРЭЧУ ПРЫВІТАЛІ

— сэнатар ЗША ад штату Нью Джэрзы — Фрэнк Р. Лотэнбэрґ (Вашынґтон);
— кангрэсмэн ад 7-й акругі штату Нью Джэрзы — Боб Фрэнкс (Вашынґтон–Юньян–Ўудбрыдж);.
— губэрнатар штату Нью Джэрзы — Крысчын Тод Ўітмэн (Трэнтан, Н. Дж.);
— сэнатар штату Нью Джэрзы Вітэйл, сябры асамблеі штату Нью Джэрзы Вісьнеўскі й Фрысчыя (Трэнтан, Н. Дж.);
— Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла;
— Згуртаваньне Беларусаў Канады (падпісаў старшыня ЗБК Мікола Ганько);
— Згуртаваньне Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» (падпісалі прэзыдэнт ЗБМ Радзім Гарэцкі й старшыня Рады ЗБС Ганна Сурмач);
— сьвятарства Беларускай Народнай Праваслаўнай Царквы (падпісалі а. Леанід, а. Аляксандар, а. Мікалай, брат Генадзь, брат Валянцін);
— народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў (цяпер знаходзіцца ў Фінляндыі);
— Асьветная Супалка «Скарына» (Прага, Чэхія; падпісалі Юрка Станкевіч, Алена Ціхановіч, Сяржук Сокалаў-Воюш);
— Полацкая Рада БНФ (падпісалі старшыня Рады Міхась Баўтовіч і сакратар Рады Васіль Падасетнікаў);
— пісьменьнік Кастусь Акула (Таронта, Канада);
— Грамадзкі Навукова-Аналітычны Цэнтар «Беларуская Пэрспэктыва» (падпісалі Валянцін Голубеў і Валянціна Трыгубовіч);
— беларускі экзарх Расейскай Праваслаўнай Царквы Філарэт.

### ПРЫВІТАНЬНЕ НАРОДНАГА ПАЭТА БЕЛАРУСІ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

*Хай будзе бласлаўёны праз вякі*
*Амэрыканскі бераг гасьцялюбы,*
*Які прыняў вас*
*І ўбярог ад згубы,*
*І далучыў*
*Да вольнай талакі.*

*Вам пляскае ў далоні*
*Акіян,*
*Да вас лятуць*
*У нясуцешнай скрусе*
*Вятры і песьні*
*З роднай Беларусі.*
*Сівее, вас чакаючы,*
*Туман.*

*Вядома,*
*Самы лепшы лекар — час.*
*Ды забыцьцё*
*Засекі смутку поўніць.*
*Вы — беларусы! —*
*І павінны помніць,*
*Што на радзіме*
*Не хапае вас!*

ла тры ўласныя песьні (дзьве па-беларуску й адну па-ангельску).

У нечаканай — джазавай — манеры малады выпускнік Менскай Кансэрваторыі Ігар Кавальчук, акампануючы на фортэпіяна, выканаў ведамую песьню І. Лучанка на словы А. Ставера «Жураўлі».

Цудоўным, прафэсійна пастаўленым голасам парадавала слухачоў Лідзія Кано (сапрана). Пад акампанэмэнт Таццяны Дзямешчык у яе выкананьні прагучалі як аўтарскія песьні («Ручнікі», «Колькі ў небе зор»), так і народны «Чабарок».

Сярод удзельнікаў канцэрту былі два госьці зь Беларусі — сьпявак Аляксандар Балотнік і актрыса Галіна Дзягілева. Г. Дзягілева выступіла з фрагмэнтам аднаго з сваіх монаспэктакляў — паводле апавяданьня Анатоля Вярцінскага.

Канцэрт атрымаўся цікавым, дынамічным. Адзінае, чаго, відаць, бракавала, — гэта танцавальных нумароў, якімі на папярэдніх Сустрэчах радавалі гледачоў нашыя выдатныя танцавальныя групы (узгадайма хоць-бы славуты «Васілёк»).

На заканчэньне канцэрту артысты разам з усімі прысутнымі прасьпявалі «Люблю наш край» і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Ускласьці «віну» за посьпех канцэрту належыцца найперш на арганізатараў канцэрту: шчыры дзякуй дзьвюм нашым чароўным Алам — др. Орса-Романо й Кузьміцкай-Шчэцька, а таксама Пятру Скепку, які забясьпечыў выступоўцаў уласнай музычнай апаратурай.

**Працяг матар'ялаў пра 23-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі чытайце ў наступным нумары.**

## ВЕСТКІ ЗЬ БЕЛАРУСІ

*(Працяг з с. 1)*

Удзельнікі імпрэзы (сярод іх рэй вядуць камуністы) прынялі заяву, у якой прапанавалі «правесьці ў чэрвені наступнага году плебісцыт аб даверы А. Лукашэнку як кіраўніку дзяржавы й адначасова аб даверы лідэрам асноўных палітычнах партыяў і грамадзкіх аб'еднаньняў.

Вынікі ўсенароднага апытаньня прапаноўваецца абмеркаваць 20 ліпеня 1999 году на Беларускім Народным Сходзе ў гадавіну прыняцьця прысягі першым прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь.

### БАЛЬ У ЧАСЕ ЧУМЫ

Напрыканцы жніва ў Міры беларуская ўлады сьвяткавалі «Дажынкі». Акрамя аўтамабіляў, матацыклетаў, холадняў (refrigerator) і тэлевізараў, якія атрымалі «ў падарунак» пераможцы спаборніцтва, грашовымі прэміямі, — падарункамі ды службовымі аўтамабілямі была ўзнагароджаная й ладная колькасьць усялякіх начальнікаў. Праўда, пра гэта, як і пра тое, што на «ўсенароднае сьвята» можна было трапіць толькі па адмысловых пропусках, дзяржаўныя беларускія газэты неяк сарамліва прамаўчалі.

Пампезнасьць сёлетніх сьвяткаваньняў рэзка кантрастуе з «працоўнымі посьпехамі»: ураджай збожжа ў Беларусі досыць сьціплы, яшчэ меншы за леташні. А «ўсенароднаабраны» проста на сьвяце абвесьціў, што Беларусь будзе купляць збожжа ў Расеі ды Ўкраіне, а віцэ-прэм'ер беларускага ўраду Гаркун, які адказваў за аграрны сэктар, падае ў адстаўку.

Чарговыя «Дажынкі» мяркуецца правесьці ў Шклову, на радзіме Лукашэнкі. Ці гэта не намёк на тое, што й верасень 1999 году мы спаткаем з тым-жа прэзыдэнтам?

### ГРОШЫ БЕЗ «ПАГОНІ»

Нацыянальны Банк Беларусі зноў узяўся за свой упадабаны занятак — друкаваньне грошай. У абарачэньне ўводзяцца мадыфікаваныя разьліковыя білеты вартасьцю 1000 і 5000 рублёў. Мадыфікацыя закранула найперш «Пагоні»: купюры ранейшага ўзору (1992 году) аздабляў беларускі нацыянальны герб. З «новых» грошай «Пагоню» выгналі.

### «МАГДЭБУРГІЮ» ФАКТЫЧНА ЗАБАРАНІЛІ

13–14 кастрычніка ў Полацкім Унівэрсытэце меркавалася правядзеньне міжнароднае навукова-практычнае канфэрэнцыі «Беларускі горад у часе й прасторы: 500 год полацкай магдэбургіі».

Падрыхтоўка да канфэрэнцыі трывала цэлы год, узяць удзел у ёй выказалі жаданьне дзясяткі навукоўцаў са шмат якіх краін, у тым ліку з Амэрыкі. Канфэрэнцыя мела ўсе шанцы стаць сапраўдным форумам беларусазнаўства.

Аднак за два тыдні да канфэрэнцыі Міністэрства Асьветы Беларусі адмовілася субсыдаваць яе правядзеньне. «Няма грошай», — сказалі дзяржаўныя чыноўнікі.

Мімаволі закрадаецца сумнеў у шчырасьці гэтых словаў. Калі-б гэта адпавядала праўдзе, унівэрсытэту адмовілі-б яшчэ год таму.

Такое рашэньне лукашэнкаўскага чынавенства можна растлумачыць імкненьнем скампрамэтаваць беларускія акадэмічныя колы, якія стаяць на нацыянальным грунце, перад міжнароднай навуковай грамадзкасьцю.

### БЕЛАРУС — ДОБРАЕ ГАРМАТНАЕ МЯСА

Лукашэнка выступіў з чарговым сэнсацыйным паведамленьнем: урад Беларусі зьвярнуўся да ўладаў Югаславіі з прапановаю ваеннай дапамогі — і зброяй і жывой сілай. Нагадаем, што Югаслаўская Фэдэрацыя, якая цяпер складаецца адно з Сэрбіі й Чарнагорыі, выступае як найбольш небясьпечны фактар нестабільнасьці ня толькі на Балканах, але й у цэлай Эўропе.

Цяжка сказаць, наколькі сур'ёзны гэты намер. Аднак несумненна, што мэта падобных заяваў — выклікаць сымпатыі ў расейскай чырвона-карычневай публікі, сотні прадстаўнікоў якой ваявалі на баку Сэрбіі ў Харватыі ды Босьніі й Герцыговіне.

### ПЛЯНУЕЦЦА НОВЫ ЧАРНОБЫЛЬ

Праз 12 гадоў пасьля Чарнобыльскага выбуху кіраўніцтва Беларусі вярнулася да ідэі савецкіх папярэднікаў — вырашыць энэргетычную праблему, пабудаваўшы атамную электрастанцыю. Лукашэнкаўскія мудрацы ад энэргетыкі вырашылі аднавіць будаўніцтва ў тым самым месцы, дзе гэта меркавалася яшчэ за саветамі, — у Рудзенскім раёне, недалёкім прадмесьці 2-мільённага Менску. Абсталяваньне для новай станцыі плянуецца набыць у Расеі.

**Агляд падрыхтавала І. Урбановіч**



## *ВІНШУЕМ*



выдатнага навукоўца, заслужанага пэдагога, мовазнаўцу, шчырую й адданую супрацоўніцу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва

**АЛЕНУ ЮРЭВІЧ**

зь юбілеем.

*Сям'я, Управа БІНІМу, Рэдкалегія газэты «Беларус»*

актыўнага базаўца й добрага парафіяніна

**КАСТУСЯ ВЕРАБ'Я**

зь юбілеем.

*Сябры*



**САФІЮ ГЭЛЕНУ ПРУСКІ**

з пасьпяховым сканчэньнем Унівэрсытэту Заходняга Мічыгану й атрыманьнем званьня бакаляўра ў сацыяльнай псыхалёгіі.

*Сям'я й прыяцелі*



**ДАРОТУ КАРАЛІНУ РЫЖЫ**

з пасьпяховым сканчэньнем праўніцкае школы ў Сан Францыско й атрыманьнем званьня доктара юрыспрудэнцыі.

# ПОШТА

*Паважаная Грамада!*

Зараз, дзякуючы крызысу Расейскай Імпэрыі, мы атрымалі апошнюю магчымасьць адрадзіць Незалежную й Дэмакратычную Беларусь. Каб дасягнуць гэтай мэты, нам патрэбна падтрымка Эўрапейскай Злучнасьці й ЗША. Бяз гэтай падтрымкі мы ня здолеем скінуць з нашай шыі «вялікую» Расею. Але ніхто ня будзе сварыцца зь ядзернай дзяржавай дзеля беднай і нікому не зразумелай Беларусі, бо бедных краін у сьвеце многа й Беларусь яшчэ ня самая бяднейшая.

Каб атрымаць падтрымку Эўропы й Амэрыкі, мы павінны давесьці, што мы ня «former USSR» і не краіна трэцяга сьвету, а нашчадкі Вялікай Цывілізацыі, якая сёньня ў вельмі гаротным стане, але паміраць ня хоча. Мы павінны вярнуць сабе нашую Слаўную Гісторыю — нашую Літву.

Сёньня амаль што кожны зь нешматлікіх артыкулаў пра Беларусь у амэрыканскім друку пачынаецца прыкладна так: «Бедныя беларусы, якія заўсёды прыгняталіся....», — і гэта нягледзячы на тое, што ўжо выдадзены сотні навуковых працаў па гісторыі Беларусі на розных мовах. Гэта адбываецца таму, што беларусы ня маюць агульнай гістарычнай канцэпцыі: да гэтага часу існуе блытаніна з паходжаньнем назвы Беларусь. І пакуль так адбываецца, мы нікому ня зможам давесьці, што Беларусь мае слаўную шматвяковую гісторыю, бо да стварэньня Масквой у 1795 годзе на захопленай тэрыторыі ўсходняй Беларусі Беларускай губэрніі, — назва Белая Русь ужывалася толькі ў рэлігійна-тэрытарыяльным сэнсе («зямля чыстага праваслаўя»).

Дзяржава-ж нашая называлася Літва, а жыхары — ліцьвіны. У Амэрыцы ды іншых краінах жывуць мільёны эмігрантаў зь Беларусі розных нацыянальнасьцяў і іх нашчадкі. Шмат хто зь іх паважае краіну, зь якой прыехалі яны ці іх бацькі або дзяды. Дзякуючы ім мы маглі-б мець вялізарнае прабеларускае лобі. Але краіна, зь якой яны зьяжджалі, называлася тады Расея, або Польшча, або Літва, а назвы Беларусь яны ня ведаюць.

Неабходна стварыць кнігу, у якой прапагандавалася-б гісторыя Беларусі ды этнічных супольнасьцяў у ёй.

Запрашаю ўсіх, хто мае неабходныя веды, да ўдзелу ў праекце.

**Зьміцер Левіт**

• • •

Напісаць гэты ліст мяне прымусіла адна публікацыя ў дзяржаўнай «Народнай газеце» — «Яны служылі на Беларусі. Яны свядома служылі Гітлеру — забойцу Беларусі». Яе аўтар, Ул. Саўрук, кляне ня толькі беларускіх патрыётаў, але й часапіс «Крыніца», у якім нярэдка друкуюцца матар'ялы пра гэтых людзей. Саўрук зьяўляецца вялікім майстрам «выкрывальніцай» публікацыі. Ужо неаднаразова ён пісаў на гэтую тэму, але раней ягоныя артыкулы былі меншымі па памерах і ня гэткімі зласьлівымі.

Думаю, што й тады Саўрук чытаў у незалежнай прэсе станоўчыя артыкулы й пра спадара Барыса Рагулю, і пра іншых слынных беларусаў. Тыя аўтары (у тым ліку й я), хто пісаў пра беларусаў замежжа трошкі ня так, як хацелася-б Саўруку, пісалі «на грамадзкіх пачатках» — без ганарараў. А вось зараз сытуацыя зусім іншая. Часапіс «Крыніца» зьяўляецца пакуль што дзяржаўным выданьнем. Таму Саўрука, як кажуць, праняло. Дзяржаўных грошай яму стала шкада. Між тым, ён нічога ня кажа на той конт, што ён таксама за сваю публікацыю атрымае ганарар.

Ня ведаю, чаму Саўрук гэтак ня любіць Барыса Рагулю, Станіслава Станкевіча, Паўла Урбана, Міколу Куліковіча-Шчаглова й асабліва Натальлю Арсеньневу. Пра нашу слынную паэтку Саўрук пісаў ужо неаднаразова й заўсёды надзвычай нэгатыўна. Чытаеш артыкул Саўрука ды дзіву даешся: адкуль у яго столькі зьвестак, ды яшчэ з фотаздымкамі. Я таксама цікаўлюся гісторыяй тых часоў, але вымушаная шукаць жывых пакуль яшчэ сьведкаў, у архівах, у якіх мае магчымасьць працаваць Саўрук, я працаваць наўрад ці змагу.

А вось спадару Саўруку можна ўсё. І пры гэтым зусім няважна, ці адпавядаюць ягоныя дасьледаваньні сапраўднасьці. Вось што піша Саўрук пра Барыса Рагулю: «У хуткім часе, калі настала пара «ліквідацыі» навагрудзкага гета, немцы даручылі Барысу Рагулю стварыць кавалерыйскі эскадрон СС».

Між тым, яшчэ жывыя сьведкі тых падзеяў, і ў тым ліку мой дзядзька Цімох, кажуць, што наадварот, толькі тады, калі быў створаны беларускі швадрон Барыса Рагулі, насельніцтва Навагрудчыны стала дыхаць трохі вальней. І ня толькі беларускае, але й габрэйскае. Жаўнеры швадрону папярэджвалі насельніцтва, каб ня ехалі ў Нямеччыну, бо стала вядома, у якім становішчы апынуліся тыя, хто туды трапіў.

Яшчэ адна цікавая цытата пра Барыса Рагулю: «...Рагуля спачатку зьбег у Бельгію. Потым некалькі гадоў ён быў «прахвесарам» па дывэрсіях і забойствах у амэрыканскай разведвальнай школе...» Можа, спадар Саўрук ня ведае, але спадар Рагуля сапраўды стаў прафэсарам. Доктарам мэдыцыны. Ён адзіны ў гісторыі Канады прэзыдэнт Мэдычнай Акадэміі неканадыйскага паходжаньня.

Яшчэ Саўрук шкадуе дзяржаўных грошай, якія пойдуць на ганарар Барысу Рагулю за публікацыю ў «Крыніцы». Між тым, ён нічога не кажа аб тым, што спадар Барыс зьяўляецца адным зь ініцыятараў фонду дапамогі дзецям Чарнобылю. Не ў Саўрука-ж ён прасіць грошай, каб дзеці змаглі паехаць на лячэньне ў Канаду.

Саўрук піша пра тых беларусаў, якіх ён лічыць здраднікамі; шкада яму тых, хто загінуў падчас нямецкага генацыду. Аднак ён ані словам ня ўспомніў тых, хто быў зьнішчаны ў часе гвалтоўнай калектывізацыі, вывезены ў лягеры. Напэўна, гэта сымбалічна, але матар'ял Саўрука быў надрукаваны на адной паласе з матар'яламі пра пахаваньне апошняга расейскага цара.

Вось такой жуйкай частуюць нашага чытача. І ён верыць, бо надрукаванаму ў нас заўсёды вераць.

**Лілія Сазанавец,**
**г. Ліда**

*Сучасная літаратура беларускага замежжа*

## КАСТУСЬ АКУЛА

Бясспрэчна, сёньня Кастусь Акула — адзін з найбольш папулярных пісьменнікаў у Беларусі. Уражаньне ад перавыдадзеных у Менску «Змагарных дарог» (прэмія імя Францішка Багушэвіча) было там такім-жа шокавым, як і ад кнігаў Юрыя Туронка й Вітаўта Кіпеля. На жаль, не пасьпелі перавыдаць, не агоралі «Гараватку»; наагул, сёньня бачыш, колькі часу тады было страчана марна, колькі магчымасьцяў спрыяльнага моманту ня выкарыстана. І ведаліж, што дыктатары перш-наперш адсякаюць сувязь з цывілізаваным сьветам, але ня верылася.

Менш вядомы чытачом раман «За волю» — ці не адзіны празаічны твор пра сёньняшні дзень нашае эміграцыі. І зразумела, што амаль ніхто на Бацькаўшчыне ня чытаў англамоўны твор пісьменьніка — раман *Tomorrow is Yesterday*.

Першай перашкодай на шляху да беларускага чытача сталася, ведама, мова, хоць менавіта дзякуючы ёй пазнаёміліся з кнігаю на Захадзе, а празь яе — зь Беларусьсю, яе гісторыяй і людзьмі, зрэшты, з самім аўтарам.

Таронцкі ўнівэрсытэцкі часапіс *Canadian Journal of the Humanities* (1969, p. 360) назваў кнігу *Tomorrow is Yesterday* («Заўтра — гэта ўчора») адной з трох кніг мастацкай літаратуры, якая прыцягнула ўвагу чытацкай аўдыторыі ў 1968 годзе.

Праз колькі гадоў у газэце *Toronto Sun* (12.07.1973) кнізе была прысьвечаная цэлая калёнка папулярнай у Канадзе аглядальніцы Труе Давідсан. Коратка перадаўшы зьмест рамана, яна зьвярнула ўвагу на тыя забойствы, зьдзекі, гвалт, што прынесьлі беларусам і фашысты, і бальшавікі. Але, піша далей аўтарка, «кніга містэра Акулы дае надзею, бо дае любоў». Рэцэнзія сканчаецца так: «Кожны канадыец мусіць прачытаць гэтую кнігу ды зрабіць усё магчымае для гэтых параненых душ і сэрцаў, каб яны змаглі пачаць новае жыцьцё. Сьвет заўсёды быў поўны пакутаў і сьмерці, і не выпадае касавурыцца на чужаземцаў, калі мы ня можам даць рады са сваімі ўласнымі злачынцамі й вар'ятамі. Кожнае жыцьцё, што зноў набыло сэнс тут, ёсьць перамога для Канады».

Пра што-ж гэты раман? Галоўная гераіня Марыя Каравай, настаўніца (незадоўга перад вайною яна скончыла Менскі Пэдагагічны Інстытут), застаецца сам-насам з вайною. Муж на фронце, на руках — двое дзетак і маці. Паўсюль ужо гаспадараць фашысты.

І вось аднойчы Марыя, адчыніўшы ўначы дзьверы на нечы грукат, ледзь пасьпявае падхапіць на рукі страціўшага прытомнасьць чырвонаармейца. Так мы знаёмімся з другім галоўным героем — расейцам Ванем Калпаковым. Гэта яго будзе яна з рызыкай для жыцьця — ня толькі ўласнага, але й усёй сям'і — хаваць у патаемным месцы, карміць, лячыць. Гэта ён, акрыяўшы, зробіць спробу згвалціць Марыю, а не адужаўшы — паклянецца адпомсьціць.

Гэтак Марыя апынулася паміж молатам і кавадлам. З аднаго боку партызаны, для якіх выкладаньне дзеткам у школе — таксама дапамога фашыстам. З другога боку — паволскі немец Бэргдорф, садыст-паліцай, а ў сапраўднасьці — той самы расеец Ваня, які цяпер зьмяніў імя ды прыбіўся да новых гаспадароў. І ён выконвае сваю пагрозу: расстрэльвае ўсю сям'ю, што некалі дала яму прытулак і выратавала жыцьцё.

Марыя цудам ратуецца — хаваецца ў лесе. Толькі й свае лясы перасталі быць сховішчам: яе хапаюць партызаны й, кінуўшы жэрабя, па чарзе гвалцяць.

Пасьля нязьлічоных выпрабаваньняў, пазьбегшы яшчэ аднаго расстрэлу, гэтым разам партызанскага, Марыя выяжджае ў Канаду. Тут жыве ейны стары дзядзька з жонкаю, але спадзеву на іхную дапамогу няма — камуністычная прапаганда зрабіла сваю справу: уцекачы ў вачох большасьці насельніцтва — фашысты ці іхныя памагатыя. Тады жанчына едзе ў Таронта, дзе нечакана сустракаецца з Калпаковым-Бэргдорфам. З таго часу перастала існаваць *заўтра*, Марыя пачала жыць адным мінулым, учорашнім. І помстаю...

Для аўтара рэцэнзіі ў *Canadian Journal of the Humanities* ня было сумневу, што «містэр Акула — беларускі патрыёт». Іншага пагляду прытрымваліся на Бацькаўшчыне.

Падчас нашай сустрэчы ў Таронта спадар Кастусь расказваў, як у Менску ў рэдакцыі часапісу «Першацвет» да яго зьвярнуліся з просьбаю даць згоду на пераклад рамана. Натуральна, такая згода была дадзеная, праца нібыта пачалася (за пераклад узяўся Ул. Бараніч), але неўзабаве спынілася. Як расказвалі пасьля сп. Кастусю, свае слова сказаў Янка Брыль, які быў абураны нават самой ідэяй выданьня кнігі «гэтага фашыста». Цяжка зразумець, чаму думка аднаго чалавека перадвызначыла лёс перакладу, але гэтак сталася.

Спадар Кастусь ня мае крыўды на Брыля, лічыць, што той быў проста блага паінфармаваны, бо сп. Акула змагаўся супраць фашыстаў, за што й быў узнагароджаны ўрадам Англіі. Вось толькі кніга сьвету не пабачыла. Рыхтавалася публікацыя аднаго разьдзелу ў «Навінах БНФ», але таксама па невядомых прычынах не зьявілася.

Мы ня маем усяго перакладу рамана *Tomorrow is Yesterday*. У архіве Кастуся Акулы захоўваецца дасланы Ул. Баранічам адно першы разьдзел, які й прапануем сёньня чытачом у спадзяваньні, што некалі й увесь твор зойме свае месца ня толькі ў канадыйскай, наагул англамоўнай, але й у нашай, беларускай літаратуры.

**Л. Юрэвіч**

• • •

Як ведама, паэма «Пан Тадэвуш» пачынаецца інвакацыяй "Litwo! Ojczyzno moja!" Так, сваю бацькаўшчыну, Навагрудчыну, Адам Міцкевіч называе Літвою. А як-жа ён называў карэнных жыхароў Коўна, перадваеннай сталіцы Летувы?

У адным лісьце з Коўна, дзе Міцкевіч настаўнічаў, ён гаворыць пра "zakute łby żmudzkie" (тупыя жамойцкія лбы). Прашу звярнуць увагу на прыметнік *żmudzkie* (жамойцкія), які сьведчыць, што сваіх вучняў у Коўне Міцкевіч называў жамойтамі (г. зн. жыхарамі Жамойці), а ня ліцьвінамі.

**М. Швэдзюк**

# Кастусь АКУЛА
# ЗАЎТРА — ГЭТА ЎЧОРА



Вёска Шулі месьцілася на ўскрайку лесу за вярсту ад шашы. Доўгімі начамі ды хмарнымі днямі шаша была запоўненая: адступала Чырвоная Армія. Бязвоблачнымі, яснымі днямі рух спараліжоўвалі нямецкія самалёты. Вяскоўцы прытаіліся ды чакалі невядомага. Яны спаўна зазналі гора ад уведзенай расейцамі калектывізацыі й віталі любую перамену. Шматвяковы нацыянальны жарт каторы раз пераставаў быць толькі жартам:

— Тату, тату, вунь д'ябал у дзьверы грукае!

— Гэткай бяды, сынку! Не хвалюйся з таго, гэта-ж не маскаль.

Шулянцы ўдосталь напіліся са свае горкае чашы. Адступ расейцаў абудзіў іхныя надзеі на лепшую будучыню. Зрэшты, ёсьць-жа на небе Бог, які неяк павінен сплаціць ім ліхтугі, што прыпалі на іх долю.

Ніякія ўсьмешкі не кранаці вуснаў вяскоўцаў. Іх родзічы былі змабілізаваныя ў войска абараняць каляніяльны рэжым ды «сьвятую матухну Расею», крыніцу іхных няшчасьцяў ды бедзтваў. Заклапочанасьць была напісаная на спакутаваных тварах старых вяскоўцаў. Яны згадвалі пра часы «вяртаньня назад», калі немцы акупавалі частку іх краіны падчас Першай сусьветнай вайны. На падставе гэтых успамінаў яны спрабавалі стварыць вобраз немцаў, якія набліжаліся, якія заўтра ці калі яшчэ павінны былі стаць іх чарговымі гаспадарамі.

Ужо пад вечар неба праясьнілася ды над паранёнай вайной зямлёю заўсьміхалася сонца. Шаша была нагэтулькі перапоўненая, што аб тым, каб хутка разьбегчыся ў выпадку авіяналёту, не магло быць і мовы. Апраўдваючы сваю «бліцкрыгавую» рэпутацыю спалучэньня пунктуальнасьці зь нечаканасьцяй, нямецкія зьнішчальнікі зьявіліся на захадзе. Адзін за адным самалёты пікіравалі на свае безабаронных ахвяраў, скідаючы лёгкія бомбы. Тое, што яшчэ гадзіну таму было войскам, якое арганізавана адступала, цяпер ператварылася ў бязладную масу гарэлага рыштунку ды зьнявечаных, скручаных целаў. Мора людзей і коней зараз шукала схованi сярод дрэваў ды кустоў, што абступілі шашу. А зьнішчальнікі ўсё кружылі вакол, выпалёўваючы няшчасных. Некаторыя самалёты давалі кола над Шулямі, і людзі, да сьмерці напужаныя вакханаліяй на шашы, хаваліся хто дзе мог.

Сутоньне прынесла ў вёску ды навакольле неспакойнае зацішша. Цяжка было адшукаць якога вяскоўца побач з шашою, бо яго маглі прыняць за нямецкага парашутыста ды застрэліць.

Дзеці Марыі паклаліся спаць позна. У прыцемку яна схілілася над імі ды прашаптала малітву. Усё яшчэ не апрытомнеўшы ад жаху дзённых падзеяў, Марыя прысела на ложак ды пагладзіла хвалістыя бялявыя валасы сына Валодзі. Шасьцігадовы хлопчык быў яе гонарам ды ўцехаю. У калысцы, падвешанай за бярозавую бэльку, ціхамірна спала трохмесячная Аленка.

Хто здолеў-бы зазірнуць у глыбіні матчынага сэрца? У мільённы раз яна гукала свайго мужа Валодзю, які — яна верыла — яшчэ жывы. Яна так яго кахала, што баялася й падумаць пра тое, штó ёй рабіць, калі той ня вернецца.

Раніцою прыйшлі немцы. Без усялякага супраціву нямецкія танкавыя злучэньні й пяхота павольна сунуліся па пыльным гасьцінцы.

Вэрмахт набліжаўся, а вяскоўцы, разявіўшы раты, ціха стаялі пры дарозе. Гэтыя чужынцы разьбілі тое, што калісь называлі наймагутнейшым войскам у сьвеце. Што яны нясуць з сабою?

Неспакой з таго, як немцы паставяцца да вяскоўцаў, разьвеяўся — напруга зьнікала, на тварах зьявіліся ўсьмешкі. А некаторыя сьмелыя людзі прыветліва махалі рукамі ўзброенай працэсіі, што цякла міма, і пыльныя, потныя акупанты на танках ды цяжароўцах прыхільна адказвалі.

Каго чакаць? Абазнаныя старыя людзі асьцярожна разважалі. Сэрцы ім тачылі падазрэньні. У сваім жыцьці яны перацярпелі нягоды Першае сусьветнае вайны, раны ад якой залізвалі яшчэ дзесяцігодзьдзі пазьней. Беларусь, іх краіна, аднавіла незалежнасьць, але ненадоўга. Змаганьне спаміж іншаземнымі драпежнікамі ўзнавілася, і неўзабаве пасьля вайны краіна была падзеленая ды зноўку каланізаваная Масквой і Варшавай. Цяжар каланіяльнага ўціску быў нагэтульки цяжкі, што віталіся любыя зьмены. Старыя вяскоўцы разумелі, што жылі ў імпартовым пекле й усё ніжэй апускаліся па яго колах.

Праз два дні ў вёску прыйшлі немцы. Аддзел пяхоты пад начальствам маладога, бялявага, блакітнавокага лейтэнанта стаў перад школай, павыганяўшы ўсіх з хатаў. Яшчэ да таго, як прыйшоў цывільны чалавек, які гаварыў праз рупар ламанай беларускай мовай, вяскоўцы, хто купкай, хто паасобку, стаялі ў школьным двары з выразам чаканьня на тварах.

Ланцуг пехацінцаў трымаў іх на адлегласьці ад афіцэра, які стоячы на школьнай вэрандзе, разглядаў незнаёмыя, пабітыя стыхіяй твары вяскоўцаў. Затым ён прароў у рупар першы загад новых уладаў, цывільны перакладчык пераказаў тое натоўпу. Зь незразумелай гаворкі лейтэнанта сяляне ўхапілі, што адзін магутны, добразычлівы ды высакародны хлопец зь імем Адольф Гітлер дзеля залатое будучыні Эўропы вырашыў вызваліць усе прыгнечаныя народы, у тым ліку й беларусаў, ад жыда-бальшавікоў і цяперака шпарка зьдзясьняў сваю задачу. Неўзабаве першым плёнам Адольфавай вялікадушнасьці да беларускіх сялянаў будзе ліквідацыя ненавісных калгасаў. Кожны, хто хоча й можа працаваць, свабодна атрымае зямлю.

Пры гэтай навіне ў шчыльным збоі людзей пасьвятлелі твары ды пачуліся галасы ўхваленьня. Лейтэнант заклікаў да парадку й працягваў.

Пасьля прамоваў немцы хутка сышлі, магчыма, каб азарыць сьвятлом добраслаўленьняў Фюрэра жыхароў іншых калгасных вёсак.

Па шашы рухаліся тысячы ног — абутых і босых. Доўгія шэрыя калёны савецкіх ваеннапалонных, худых, галодных, зьнясіленых, у рызьзі, кіраваліся на Захад. Эўрапейскія ды азіяцкія расейцы, беларусы, украінцы, армяны, узбэкі й таджыкі, грузіны й казахі, калмыкі й бураты — усе нацыянальнасьці земляў, каланізаваных Масквой, былі ў гэтым людзкім моры.

Яны адмовіліся ліць кроў у абарону крамлёўскага дэспата, але, унікнуўшы Сцылы, апынуліся ў абдымках Харыбды. Пад вартаю вялізных нямецкіх аўчарак. Зьнясіленых ці нямоглых, тых, хто ня мог працягваць шлях на Галгофу, — прыстрэльвалі. А тутэйшае насельніцтва змабілізавалі, каб капаць яміны ды хаваць трупы.

Тубыльцы ніколі дагэтуль ня былі сьведкамі гэткае зьвярынае жорсткасьці проста перад іхнымі ганкамі. Жахлівыя сталінскія каты хапалі сваіх ахвяраў з ложкаў пасярод ночы, але гэтыя, так званыя «вызваліцелі», нават не рабілі хоць якіх намаганьняў, каб схаваць свае злачынствы. Ажно найстарэйшыя жыхары Шулёў не маглі прыгадаць такіх часоў, калі-б людцаў гэтак хутка, гэтак бесчалавечна й адкрыта адпраўлялі ў магілы.

Другі год вайны прынёс новае жыцьцё ў вялізарныя абшары беларускіх лясоў: дзейнасьць, што ня мела нічога агульнага з чымсьці вядомым у мінулым. З так званае Вялікае Зямлі скідалі на парашутах адмыслова навучаныя групы й абсталяваньне. Зародкі самых першых партызанскіх атрадаў былі моцна напоўненыя дэзэртырамі з Чырвонай Арміі ды ўцекачамі зь лягероў ваеннапалонных. Паколькі спробы набраць рэкрутаў сярод мясцовага насельніцтва прынесьлі вельмі нязначныя вынікі, ужываліся некаторыя мэтады «пераконваньня». Юнакам лясных зонаў загадалі далучыцца, і некаторыя так і зрабілі. Немцы хутка зразумелі, што калі яны хочуць эфэктыўна кантраляваць акупаваны абшар, то ім прыйдзецца адмовіцца ад свайго ўлюбёнага дэвізу: «Пры немцах-гаспадарох ніводзін іншаземец не павінен насіць зброю». Былі арганізаваныя першыя злучэньні так званае Беларускае Самапомачы. Яны ня здолелі набраць маральна здаровых людзей, бо беларусы глядзелі на сваіх новых гаспадароў зь недаверам ды занялі пазыцыю чаканьня. Шэрагі паліцыі папаўняліся ўсякімі вырадкамі, пераважна расейскага ды польскага паходжаньня. Шмат якія камандныя пасты ўзначальвалі паволскія немцы, бліжэйшыя Гітлеру па крыві.

Тубыльцы ў лясных мясьцінах неўзабаве адчулі абдоймы двух гігантаў, што счапіліся ў барацьбе не на жыцьцё, а на сьмерць. Не жадаючы выбіраць з двух драпежнікаў, безабароныя, яны неўзабаве зрабіліся лёгкай здабычай для абодвух бакоў. Пачварнае правіла — «Тыя, хто ня з намі, — тыя супраць нас», — што стасавалася абодвума бакамі без выключэньня ў адносінах да мясцовага насельніцтва, прынесла рабункі, забойствы, гвалт, падпалы ды татальнае вынішчэньне. Закон джунгляў панаваў неабмежавана. Пазьней, задужа ўжо позна, сутыкнуўшыся зь непазьбежнай пагібельлю, тубыльцы ўсьвядомілі, што іхнае выжываньне залежыць ад удзелу ў агульнай вайне. Адгукаючыся на заклік беларускіх патрыётаў, якія ўсьвядомілі, што адбываецца, шмат хто далучыўся да Беларускае Самааховы дзеля ўласнае самаабароны ды напярэдадні нямецкага адступу стаў у шэрагі Беларускае Краёвае Аховы.

Спачатку, аднак, як чырвоныя партызаны, так і нямецкія дапаможныя часткі, ня могучы дамагчыся ад тубыльцаў ляяльнасьці ды жаданьня супрацоўнічаць, спрабавалі іх застрашыць ці зьнішчыць. Адкіды грамадзтва, што служылі па абодва бакі, бачылі ў сваім мундзеры ліцэнзію на забойствы, рабункі ды гвалт. Ніколі раней у сваім жыцьці яны не зьбіралі такога багатага ўраджаю.

Вёска Марыі Каравай, што месьцілася на ўскрайку лесу, паблізу ад галоўнае шашы ды чыгункі, была асабліва прыступная для абодвух варожых бакоў. Уночы сюды прыходзілі чырвоныя партызаны, каб пусьціць пад адхон нямецкі цягнік ці зрабіць засаду на гасьцінцы, а ўдзень немцы прачэсвалі лес ды помсьцілі кожнаму, каго падазравалі ва ўкрыцьці сваіх няпрыяцеляў. Насельніцтва патрапіла ў жорсткую пастку. Кожны селянін жыў пазычаным часам.

Аднаго хмарнага восеньскага дня Марыя займалася з вучнямі ў школцы. Другая й чацьвертая клясы прыходзілі зранку, першай і трэцяя пасьля абеду. Працаваць зь дзьвюма клясамі запар на працягу васьмёх гадзінаў было ня надта лёгка. Патрабавалася поўная адданасьць справе, чаго ў Марыі, якая любіла сваю работу й дзяцей, было зь ліхвой.

Неўзабаве знадворку пачулася нейкая мітусьня, а затым з грукатам расчыніліся дзьверы. Настаўніца й кляса скамянелі. Сівы барадаты мужчына ў цывільным, з аўтаматам, у шапцы з чырвонаю зоркаю, спыніўся пры дзьвярох. Ягоныя цёмныя, вузкія, пранізьлівыя вочы смакавалі напружанасьць, што адбілася на пераляканых тварыках дзятвы. Яшчэ двое — чалавек з тварам сыча ды малады хлапец — выцягвалі шыі з-за сьпіны сівога барадача. Паўпрытомная, Марыя прысела на лаўку. У яе дрыготкіх руках нэрвова танчыў аловак. Няпрошаныя госьці ўвайшлі — і ў клясе ўзьняўся вэрхал: адныя дзеці заплакалі, іншыя паўціскаліся ў лаўкі.

— Ціха! Цішэй вы! Паводзьцеся добра й нікому нічога ня будзе, — загадаў мужчына з зоркай.

Ягоныя вузкія цёмныя вочы, густая барада ды рашучы выгляд выклікалі страх і пакору.

Ён павярнуўся ды зірнуў на сьцяну над дзьвярыма. Тамака пад укрыжаваньнем вісеў герб — Беларуская Пагоня. Надоечы Марыя зьняла партрэт Гітлера якраз на той выпадак, калі здарыцца нешта падобнае. Нейкае імгненьне партызан вагаўся. Затым у клясе загрымеў раптоўны выбух аўтаматнае чаргі — барадаты расстрэльваў выяву Вялікалітоўскага Вершніка на белым кані. Крывячы ва ўсьмешцы раты, два другія пазіралі на Марыю й дзяцей.

*(Надрукавана са скаротамі)*

# СЬВ. ПАМ. ЛЕАНІД ЛІТАРОВІЧ
## (16.08.1928-12.08.1998)



У Саўт Рывэры, дзе ён жыў, Лёню Літаровіча ўсе ведалі як чалавека самаахвярна адданага справе будаўніцтва й утрыманьня беларускага рэлігійна-грамадзкага асяродку. На працягу больш як сарака гадоў ён быў у самым цэнтры саўтрывэрскае грамады, якая, пачаўшы зь нічога, здолела пабудаваць трывалы цэнтар царкоўнага й культурнага жыцьця. Энтузіяст і патрыёт, Лёня Літаровіч быў усюды, дзе патрабаваліся і гарачае сэрца, і практычны розум, і цяжкая праца. Ён быў адданым прыхаджанінам і руплівым працаўнікам парафіі сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Як добры гаспадар, ён пра ўсе дбаў, пра ўсё стараўся — ці гэта была справа закупу сьвечак, ці набыцьця мэблі, ці рамонту, ці пабудовы новай царквы. Ён плянаваў, ён перайімаўся, ён пакладаў свае сілы й уласныя грошы, абы толькі мацавалася дый ішла наперад рэлігійная й грамадзкая справа. На працягу свае 25-гадовае працы ў ролі скарбніка парафіі Лёня Літаровіч ня толькі рупіўся аб папаўненьні касы прыходу, але заўсёды аплачваў безьліч царкоўных выдаткаў сваймі ўласнымі грашыма.

Унікальная роля Лёні была ў засаджэньні прыцаркоўнага пляцу ля новай царквы сьв. Еўфрасіньні памяткавымі дрэвамі, што разрасьліся ў невялікі парк. Там традыцыйна ладзяцца цяпер пікнікі ды іншыя ўрачыстасьці. Парк гэты, на добры лад, заслугоўвае быць названым імём Леаніда Літаровіча. Такое найменьне было-б адпаведнай формай выказваньня ўдзячнасьці парафіянаў за шматгадовую нястомную працу аднаму з заслужаных, самых ахвярных дзейнікаў рэлігійна-грамадзкае актыўнасьці ў Саўт Рывэры. Пры жыцьці Лёня не патрабаваў і не разьлічваў на ніякія падзякі. Яму, самаахвярнаму й сьціпламу, найлепшей падзякай было ўсьведамленьне выкананага грамадзкага абавязку. У ягонай асобе мы маем яркі прыклад чалавека ня толькі патрыятычнага, але й глыбака маральнага, сапраўднага хрысьціяніна й добрага беларуса. Вобраз такога чалавека заслугоўвае на ўшанаваньне празь беражлівае перахоўваньне памяці пра яго як спосабу маральнай падтрымкі тых, хто йдзе ягоным сьледам.

Глыбокая хрысьціянская маральнасьць разам зь беларускім патрыятызмам уласьцівыя ўсёй сям'і Літаровічаў. У гэтай сям'і часта атрымвалі дапамогу, начлег і харчы людзі зь Беларусі, калі дачакаліся магчымасьці наведваць Амэрыку. Лёня з жонкай Лізай вельмі часта гасьцінна адчынялі дзьверы беларускім артыстам, мастакам ці проста суродзічам, якім давозілася трапляць у ЗША. Жыцьцё Лёні ўсюды суправаджалася добрасардэчнай шчордасьцю ў дачыненьні да кожнага чалавека. Гэтую якасьць яго характару вельмі трапна адзначыў ягоны зяць Кен Моэн за памінальным сталом у дзень паховін. Кен — чалавек не шматслоўны, ня лёгка паддаецца эмоцыям. Але ён ня мог устрымацца, каб не сказаць пра Лёню прачулена, красамоўна й праўдзіва: «Лёня быў больш, чым адмысловым. Ён быў чалавекам, якога сустракаеш раз на тысячагодзьдзе або чытаеш пра такіх у кнізе ці часапісе. Наколькі мы былі шчасьлівыя, што ён жыў сярод нас і сваім жыцьцём дакрануўся да ўсіх нас, што ў гэтай залі. Лёня спрыяў выяўленьню нашых найшляхотнейшых імкненьняў. І я заклікаю вас рабіць штодня найлепшае, як гэта рабіў-бы ён. Калі-б кожны з нас пражыў хоць частку свайго жыцьця так, як гэта рабіў ён, наколькі лепш мы жылі-б».

Сьв. пам. Леанід Літаровіч нарадзіўся ў вёсцы Боркі на Барысаўшчыне. Цудоўная беларуская прырода залажыла ў ягоную душу любасьць да навакольля й да роднага краю, а найбольш да людзей. Вайна закінула сям'ю Лёні ў Нямеччыну. Там Літаровічы, у тым ліку Лёневы бацькі, сястра Марыя ды браты Віктар і Ўладзімер, жылі ў лягерох для «перамешчаных асобаў», бралі ўдзел у беларускім арганізацыйным жыцьці. На пачатку 1950-х гадоў эміґравалі ў Злучаныя Штаты, пасяліўшыся ў Саўт Рывэры. Тут Лёня й пражыў найбольшую частку свайго плённага жыцьця.

Амэрыка сталася яму другой бацькаўшчынай, якую ён шанаваў і якой быў басконца ўдзячны. Тут застаўся й род ягоны: замужняя дачка Лена Моэн зь дзьвюма дачушкамі й жанаты сын Іван з сынком. У асобах жонкі Лізы й дзяцей з унукамі жыве сьветлая памяць пра Лёню Літаровіча, у вобразе якога мы ўсе маем дастойны прыклад вялікага хрысьціяніна й вернага сына Беларусі.

**Янка Запруднік**

# *ЗАМАЎЛЯЙЦЕ НОВЫЯ КНІГІ!*

У БІНІМе з друкарні Міколы Прускага выходзіць чарговы, дзявяты, том сэрыі «Беларускія паэты й пісьменьнікі» — кніга **Лявона Крывічаніна «Беларусізацыя пад №».** Гэты зборнік вяртае ў нашую літаратуру Лявона Савёнка й ягоныя творы: фэльетоны, апавяданьні, што пісаліся і ў даваенныя гады, і на эміграцыі, «Дзёньнік Чужанінава», артыкул «Крыжоваю дарогаю (да 20-х угодкаў справы БНЦ)». Як піша ў прадмове да кнігі Л. Юрэвіч, «Сёньня, калі "Дзёньнік Чужанінава" ўпяршыню (з 1942 году) перачытваецца, і ўпяршыню — як самастойны твор, а ня нізка асобных фэльетонаў, бачна, наколькі ён «кладзецца» ў нашую літаратуру, ды дзіўна, што да гэтага часу яго быццам-бы ня было ня толькі для шырокага чытача, але й для крытыкаў, гісторыкаў, палітыкаў — для ўсіх нас, настолькі ён арганічны для нашага існаваньня». Кніга ілюстраваная рэдкімі фотаздымкамі.

Кніга **Лявона Крывічаніна «Беларусізацыя пад №»** выдадзена коштам сям'і Савёнкаў-Кіпеляў.

* * *

У БІНІМе падрыхтаваны да друку й пабачыць сьвет на пачатку 1999 году яшчэ адзін том з гэтай сэрыі — **«Беларуская мэмуарная літаратура на эміграцыі».** У кнізе зьмешчана праца Лявона Юрэвіча, у якой упяршыню ў нашай літаратуры разглядаецца эміграцыйнай мэмуарыстыка, друкуюцца невядомыя ўспаміны Натальлі Арсеньневай, аўтажыцьцяпісы Алеся Змагара, Юркі Жывіцы, В. Сэляха-Качанскага, згадкі Зінаіды Кадняк пра мужа — Алеся Салаўя, успаміны ўкраінскага гісторыка С. Підгайнага «Беларусы на Салаўках», старонкі з кнігі Юркі Віцьбіча «Не чарнілам, а крывёю» й ягонае ліставаньне з былымі віцяблянамі ў ЗША, а таксама іншыя матар'ялы. Багатая бібліяграфія й цытаваньне архіўных дакумэнтаў надаюць кнізе асаблівую цікавасьць.

* * *

Выдавецтвам газэты «Беларус» пад рэдакцыяй Ілоны Ўрбановіч і Зьміцера Саўкі выходзіць 300-старонкавы том успамінаў **Яўхіма Кіпеля «Эпізоды».**

Найбольш цікавыя моманты кнігі прысьвечаныя працэсу беларусізацыі 20-х гадоў, бальшавіцкім рэпрэсіям 30-х, беларускаму жыцьцю ў акупаваным немцамі Менску. Яўхім Кіпель быў у самым цэнтры падзеяў, таму ягоныя сьведчаньні будуць асабліва каштоўныя для дасьледнікаў найноўшай беларускай гісторыі.

Да аўтарскага тэксту далучаецца даволі аб'ёмны дадатак, які ўключае дакумэнты, бібліяграфію публікацыяў Я. Кіпеля, невялікі слоўнік («Тлумачэньне некаторых словаў і выразаў»), а таксама іменны паказьнік.

**Замовы на кнігі й ахвяраваньні просьба дасылаць на адрас: 230 Springfield Ave., Rutherford, NJ 07070.**







**ДЗЯКУЕМ**
за дасланыя матар'ялы А. Маркевічу, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюку.



Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага, Ільліной, паведамляе ўсё беларускае грамадзтва ў замежжы й на Бацькаўшчыне, што ад 1 жніўня адрас Камітэту ёсьць наступны:

**B.C.C.C.J.**
**(Bielarusian Coordinating Committee of Chicago, Illinois)**
**Bielarusian Religious and Cultural Center**
**3107 West Fullerton Avenue, Chicago, Illinois 60647**

2 верасьня ў Менску на 51-м годзе жыцьця адышоў ад нас адданы беларускі патрыёт **айцец ЯН МАТУСЕВІЧ,** протапрэсьвітэр грэка-каталіцкай царквы Беларусі.

**Лявон Юрэвіч**
паведамляе свой новы адрас:
204 Ave N, Brooklyn, NY. 11230